№ 23 (95)
Сьнежань 2001

# Права на волю

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"



Фота "ПнВ"

# Забароненыя цэнзурай...




Дзевяностыя гады XX стагодзьдзя, асабліва другая палова, сталі для многіх беларускіх творцаў "дэжа вю" – вяртаньнем у нядаўняе, яшчэ не забытае, мінулае. З прыходам да ўлады А.Лукашэнкі слова "цэнзура" зноў пачало ўжывацца ў сваім першапачатковым значэньні. Творы жывапісу, скульптуры, інсталяцыі, кнігі, газеты... – усё тое, што было ў Беларусі забароненае цэнзурай у апошнія гады, можна было пабачыць 10 сьнежня, у дзень чарговай гадавіны абвяшчэньня Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, на перформансе і выставе "Не дазволена цэнзурай", якія былі наладжаныя ГА ПЦ "Вясна" разам з мастаком Алесем Пушкіным.

У 15.00 на вуліцы Дзімітрава ў Мінску непадалёку ад таго месца, дзе знаходзіўся нядаўна зьнішчаны будынак сінагогі, у якім, дарэчы, месьціліся майстэрні мастакоў, прайшоў перформанс. А.Пушкін, апрануты ў чорную рызу інквізітара, абчапляны ланцугамі і сушанымі рыбкамі, сімвалізаваў такім чынам інквізітарскую сутнасьць цэнзуры і вынікі яе дзейнасьці – высушанае жыцьцё.

(Працяг на стар.2)



Алесь ПУШКІН.



Выступае паэт Эдуард АКУЛІН.

Фота "ПнВ"

## Хроніка

*3 сьнежня* стала вядома, што зноў прыпыненая крымінальная справа, узбуджаная супраць журналістаў крычаўскай незалежнай газеты "Вольны горад" *Сяргея Няроўнага, Вадзіма Сьцефаненкі* і *Мікалая Маторанкі*. Нагадаем, што крымінальная справа супраць іх была ўзбуджаная сёлета 12 ліпеня. У першы раз яна была спыненая 15 кастрычніка з-за адсутнасьці складу злачынства, але 25 кастрычніка – адноўленая, каб цяпер зноў быць спыненай...

*3 сьнежня* ў Савецкім раёне г. Мінску адбыўся суд над абаронцам Курапатаў маладафронтаўцам *Раманам Казакевічам*. Быў вынесены прысуд – штраф 100 тысячаў рублёў.

*5 сьнежня* ў 15.40 каля будынку кінастудыі «Беларусьфільм» у Мінску быў затрыманы і зьмешчаны ў ізалятар часовага ўтрыманьня ГУУС Мінгарвыканкаму малады рэжысёр-пастаноўшчык *Руслан Зголіч*. Яго абвінавацілі ў выкраданьні стужкі з незавершанай версіяй фільму «Госьці», рэжысёрам якога ён сам і зьяўляецца. З заявай аб зьнікненьні стужкі ў міліцыю зьвярнулася кіраўніцтва «Беларусьфільму». Паводле словаў рэжысёра, сітуацыя абвастрылася з-за тэрмінаў здачы фільму. Ён прасіў дадатковы час да здачы карціны, бо лічыў, што сьпешка сапсуе якасьць працы. Аднак кіраўніцтва кінастудыі аб'явіла рэжысёру строгую вымову з папярэджаньнем і паставіла пытаньне аб тым, каб фільм завяршыў іншы рэжысёр-мантажор. У канцы лістапада Руслана Зголіча перасталі пускаць у ягоны ўласны кабінет на кінастудыі. Ён вымушаны быў зьвярнуцца з заявай у Міністэрства культуры і пракуратуру, дабіваючыся самастойнага завяршэньня працы, аднак безвынікова.

(Працяг на стар. 6-7)

# Ліквідаваць ціха і хутка

## Вярхоўны суд РБ задаволіў зыск Міністэрства юстыцыі РБ і вынес пастанову пра ліквідацыю няўрадавай маладзёжнай арганізацыі Задзіночаньне беларускіх студэнтаў

27, 29 лістапада і 3 сьнежня ў Вярхоўным судзе РБ прайшлі слуханьні справы па зыску Міністэрства юстыцыі аб закрыцьці Задзіночаньня беларускіх студэнтаў – адзінай недзяржаўнай студэнцкай арганізацыі на Беларусі, арганізацыі, якая зьяўляецца адным з заснавальнікаў Асамблеі ДНА.

На нядаўніх прэзідэнцкіх выбарах менавіта беларускае студэнцтва не падтрымала А.Лукашэнку, пра што ён неаднаразова казаў у сваіх выступах перад СМІ. Гэта і стала адною з асноўных прычынаў захадаў па закрыцьці ЗБС. Бо афіцыйна зарэгістраваная ў 1992 годзе студэнцкая арганізацыя зьяўляецца адною з самых уплывовых у Беларусі. Яна мае свае структуры ў 40 навучальных установах, выпускае часопіс і шматлікія іншыя студэнцкія выданьні, адкрыта выступае супраць прымусовага размеркаваньня, нечалавечых умоваў жыцьця ў інтэрнатах, супраць неабгрунтаваных коштаў на састарэлыя веды, супраць прыгнёту і прымусу на ўсіх узроўнях, праводзіць масавыя акцыі на цэнтральных плошчах гарадоў, працуе з дэканамі і студэнтамі, універсітэцкімі бібліятэкамі і сталоўкамі, зьяўляецца паўнапраўным і актыўным сябрам ESIB (Нацыянальных студэнцкіх зьвязаў Еўропы)...

Як з такою арганізацыяй змагацца – толькі ліквідаваць ціха і хутка! Але так не атрымалася.

16-18 лістапада ў Брусэлі прайшла Еўрапейская студэнцкая канвенцыя, якая прыняла рэзалюцыю ў падтрымку Задзіночаньня беларускіх студэнтаў. Каля 30 арганізацыяў з усёй Еўропы гарантавалі, што незалежна ад вынікаў суда застануцца партнёрамі ЗБС, выказалі абурэньне ў сувязі з нахабнымі праявамі дыктатуры на Беларусі ды ціскам на студэнтаў. Студэнцкія зьвязы Галандыі, Польшчы, Мальты,Эстоніі і многія іншыя арганізацыі паабяцалі паінфармаваць парламенты і міністэрствы сваіх краінаў пра сітуацыю з правамі чалавека на Беларусі. Акрамя таго, яшчэ некалькі дзясяткаў сусьветных структураў зьвярнуліся з лістамі пратэсту ў Міністэрства юстыцыі РБ. Пісьмовыя просьбы патлумачыць прычыны ціску на ЗБС даслалі і шэраг беларускіх грамадзкіх арганізацыяў і прыватных асобаў. ГА ПЦ "Вясна" таксама заклікала міжнародную супольнасьць прыкласьці намаганьні дзеля абароны ЗБС.

На судовым паседжаньні вядучы сьпецыяліст Міністэрства юстыцыі А. Харытон заявіў, што ЗБС стварае перашкоды дзейнасьці Мінюсту і распаўсюджвае літаратуру палітычнага зьместу. Прыклады? Зорачка на бланку арганізацыі не таго колеру, два сябры арганізацыі ня ведалі, дзе ляжаць дакументы 1999 году... Пры гэтым на паседжаньні было ўстаноўлена, што Мінюст даслаў у суд і ў ЗБС аднолькавыя дакументы з рознымі датамі, герб на бланку міністэрства не адпавядае зацьверджанаму А.Лукашэнкам, з двух бакоў аднаго бланку пададзеныя два розныя адрасы, а каля прозьвішча начальніка стаіць подпіс намесьніка. Пры гэтым дзяржаўная ўстанова мае аплочваемых і падрыхтаваных супрацоўнікаў, каб сачыць за адпаведнасьцю заканадаўству сваёй дакументацыі. Але ў выпадку з Мінюстам гэта, аказваецца, не прынцыпова, а вось студэнты мусяць мець ідэальную канцылярыю і бухгалтэрыю і заднім чыслом уносіць зьмены, бо чарговы раз прынятыя новыя патрабаваньні...

Палітычнай жа літаратурай, у разуменьні чыноўнікаў, называецца налепка "Не тармазі!" з чалавечкамі, якія танчаць. "Увесь горад быў заклеены такімі", – сказаў тав. Харытон.

Юрысты ЗБС Сяргей і Зьміцер Зікрацкія пераканаўча абвергнулі ўсе абвінавачаньні. Нават беларускае заканадаўства пацьвярджае, што рацыю маюць менавіта студэнты.

Аднак 3 сьнежня судзьдзя Вярхоўнага суда РБ Мікалай Бабкоў задаволіў зыск Міністэрства юстыцыі і вынес пастанову пра ліквідацыю ЗБС. Падстава дзеля ліквідацыі — быццам бы парушэньне беларускіх законаў. Апрача таго, сябры ЗБС абвінавачаныя ў тым, што "займаліся палітычнай дзейнасьцю": прымалі ўдзел у агітацыйнай перадвыбарчай кампаніі, падрыхтавалі шэраг улётак, якія заклікалі маладых людзей прыйсьці на выбарчыя ўчасткі і прагаласаваць...

# Забароненыя цэнзурай...

(Пачатак на стар.1)

Тут жа, на будаўнічым плоце былі разьвешаныя забароненыя цэнзурай творы. Мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі расказаў прысутным пра гісторыю цэнзуры ў Беларусі.

У 17.00 у залі галерэі "Золата" адбылося адкрыцьцё выставы пад той жа назвай: "Не дазволена цэнзурай". Старшыня ГА ПЦ "Вясна" Алесь Бяляцкі, адкрываючы выставу, сказаў, што, праводзячы гэтую акцыю, арганізатары хацелі паказаць, як канкрэтна на лёсе творцаў адбіваюцца праблемы з захаваньнем правоў чалавека ў Беларусі. Выступілі таксама паэт Эдуард Акулін, кніга якога "Радно" была зьнішчаная ўладамі за вершы, якія палічылі "палітычнымі", галоўны рэжысёр тэатру "Вольная сцэна" Валеры Мазынскі, які быў вымушаны пакінуць тэатр пасьля пастаноўкі сьпектаклю "Прынц Мамабук", мастакі Мікола Купава, Алег Карповіч і інш.

Большую частку экспазіцыі выставы займаюць уласна карціны – Алеся Пушкіна, Артура Клінава, Тацяны Маркавец, малюнкі Алега Карповіча, Льва Талбузіна, інсталяцыі Алеся Пушкіна, Льва Талбузіна і Аляксея Марачкіна, скульптура Міхаіла Інькова... Выстава будзе працаваць да 20 сьнежня.


Фота "ПнВ"
Выступае Валеры МАЗЫНСКІ.


Фота "ПнВ"


Фота "ПнВ"

 





# Мікола МАРКЕВІЧ:
# “Пагоні” неабходная падтрымка!”

***Спрактыкаваная ў змаганьні з уласным народам дзяржава ўпарта працягвае беззаконны перасьлед незалежнага беларускага друку. “Права на волю” ня раз паведамляла пра ўладныя перашкоды ў дачыненьні да выхаду гарадзенскай “Пагоні”. Рэдактар гэтага папулярнага грамадзка-палітычнага выданьня спадар Маркевіч, адказваючы на пытаньні нашага карэспандэнта, распавядаў, што Аляксандр Лукашэнка рукамі мясцовых паслугачоў вядзе супраць рэдакцыйнага калектыву бой бяз правілаў, бой на вынішчэньне. З траўня гэтага году да гарадзенскіх “вертыкальшчыкаў” і міліцыянтаў, якія бяз стомы цкавалі “Пагоню”, далучыўся і КДБ. Адшукаць хоць нейкі кампрамат супраць газеты не ўдалося. Але дзяржаўных “законьнікаў” гэта ніяк не засмуціла. Па праву “моцнага”, без суда і сьледзтва выхад газеты быў забаронены. Але, нягледзячы на супрацьпраўныя дзеяньні ўладаў, рэдакцыйны калектыў працягвае працу. Каментар да апошніх падзеяў даў нашаму карэспандэнту галоўны рэдактар "Пагоні" Мікола Маркевіч:***



Мікола МАРКЕВІЧ

***— Дык чым так палохае ўладу “Пагоня”, спадар Мікола?***

— Пры Лукашэнку нашая газета заўжды была аб'ектам масіраваных нападкаў з боку мясцовага чынавенства і гэтак званых праваахоўных органаў. Відаць, само слова “Пагоня”, беларуская мова, наша прынцыповая пазіцыя адносна асьвятляемых падзеяў і зьяваў выклікалі і выклікаюць зубоўны скрыгат у тых, хто, заняўшы ўладныя пасады, вырашыў дашчэнту вынішчыць усё нацыянальнае. Натуральна, гэтыя лёкаі старанна выконваюць загад прэзідэнта, які, як агню, баіцца беларушчыны. Супрацоўнікі КДБ, навыперадкі стараючыся зьдзейсьніць загаданае зьверху, з сёлетняга траўня трымалі рэдакцыю пад самым пільным кантролем, рабілі ўсё, каб запалохаць нас, выбіць з каляіны і ў выніку закрыць "упартую" газету. Прававых падставаў дзеля гэтага не было аніякіх. Нічога антызаконнага мы не рабілі і ня робім. У адрозьненьне ад уладаў, якія спачатку спрабавалі прыкрывацца неакрэсьленымі спасылкамі на нібыта нейкае фармальнае парушэньне закону з нашага боку, а пасьля няўдалых спробаў запляміць “Пагоню” перайшлі да адкрытых і выключна антыканстытуцыйных дзеяньняў.

***— Маеце на ўвазе ўзбуджэньне крымінальнай справы супраць “Пагоні” пятага верасьня, напярэдадні прэзіэнцкіх выбараў?***

— Так. Адначасова быў арыштаваны 36-ы, перадвыбарны, нумар газеты. У Законе аб друку ідзе гаворка аб тым, што канфіскацыя накладу выданьня альбо часткі яго недапушчальныя, акрамя як па рашэньні суда, якое ўступіла ў законную сілу. Між тым, ніякага суда не было! Арышт нумару для кожнага з супрацоўнікаў рэдакцыі быў громам сярод яснага неба! Гэты факт — яшчэ адно пацьверджаньне, што за газетай уважліва сачылі. Больш за тое, зьмест канфіскаванага нумару да яго выхаду ў сьвет, апрача журналістаў “Пагоні” і рабочых друкарні, ведаў, аказваецца, і пракурор! І справа ня ў тым, як яму гэта ўдалося. Справа ў тым, што цэнзура СМІ забароненая беларускай Канстытуцыяй!

***— Абвінаваціць у правапарушэньнях, ігнаруючы пры гэтым заканадаўства, можна, відаць, толькі на Беларусі...***

— У дачыненьні да “Пагоні” гэта адбывалася з падвоенай сілай на працягу верасьня і лістапада. З нумарам 37-ым здарылася аналагічная гісторыя. Ягоны наклад арыштавалі проста ў друкарні. Была здзейсьненая і выемка інфармацыі з рэдакцыйных камп'ютараў. Канфіскавалі рэшткі грошай з нашага рахунку і нават газетную паперу са складу. І гэта нягледзячы на тое, што “Пагоня” — зарэгістраванае паводле закону выданьне!

Зноў не магу не ўзгадаць Закон аб друку, які гаворыць аб недапушчальнасьці стварэньня перашкодаў дзеля легальнай дзейнасьці легальных сродкаў масавай інфармацыі. Стварэньне гэтых перашкодаў павінна карацца ў адміністрацыйным, крымінальным парадку... Улады бессаромна ідуць на парушэньне законаў. Яны проста ня могуць іх не парушаць! У гэтым сутнасьць таталітарызму — не за правапарадкам сачыць, не дабрабыту людзкога дамагацца, а дбаць перш за ўсё пра захаваньне рэжыму. У прыстойнай краіне закон — стрыжань, на якім трымаецца ўсё: нацыянальная палітыка, эканоміка, мова, самасьвядомасьць. На Беларусі ўсё з дакладнасьцю да наадварот. Лукашэнку ў гэтым хіба што з Чаушэску можна параўнаць.

***— Словам, наш Закон аб друку, мякка кажучы, бязьдзейнічае?***

— Гэта не Закон аб друку, гэта закон супраць друку. Калі казаць вобразна, мы гулялі з дзяржавай у шахматы, стараліся захоўваць правілы, але пасьля чарговага нашага ходу дзяржава, не абцяжарваючы сябе маральна-этычнымі развагамі, адказала ўдарам шахматнай дошкай па галаве.

***— Тым ня менш, “Пагоня” ня страціла свайго чытача.***

— Так, нас чытаюць у Інтэрнэце. Не магу сказаць, што з дапамогай камп'ютарнай сеткі мы працуем гэтаксама эфектыўна, як і ў газетным варыянце. Але ўдасканальваемся па меры магчымасьці. Думаю, праз хуткі час усё будзе на адпаведным узроўні. У першую чаргу, маю на ўвазе выкарыстаньне рэжыму "рэальнага часу", калі на кожную падзею камп'ютарная “Пагоня” будзе адгукацца праз некалькі хвілінаў...

Адначасова распрацоўваем канцэпцыю зусім новага газетнага выданьня. Таксама легальнага. Але ў гэтым напрамку зрухі мізэрныя. Дзяржава робіць усё, каб “Пагоня” ў самых розных яе газетных варыянтах больш не існавала. Намесьнік старшыні Гарадзенскага гарвыканкаму па ідэалогіі С. Анішчык ужо даўно “палае любоўю” да “Пагоні”. Упэўнены, што ён зробіць усё, каб беларускае слова не трапіла да чытачоў. Вынішчаючы праўду, чынавенства злоўжывае ўладай, беспакарана парушае заканадаўства. І лічыць гэта ледзь не найпершым сваім функцыянальным абавязкам.

***— Па якіх адрасах зьмешчаныя вашыя камп'ютарныя публікацыі?***

— З матэрыяламі “Пагоні” можна пазнаёміцца па двух камп'ютарных адрасах: ***www.pagonia.promedia.minsk.by*** і ***www.pagonia.com*** Наш журналісцкі штат захаваўся. Публікацыі не згубілі якасьці і надзённасьці. Штодня на сайце зьяўляецца 2-3 новыя загалоўкі. У беларускім рэйтынгу камп'ютарных старонак займаем сярод СМІ дзесьці 10-15 радок... Штодня ў нас у сярэднім 50-60 наведвальнікаў-чытачоў... Дарэчы, адзінае, што ў нас не змаглі забраць — наша рэдакцыйнае памяшканьне. Яно належыць заснавальніку газеты — грамадзкаму аб'яднаньню “Бацькаўшчына” і Гарадзенскай філіі Таварыства беларускай мовы. Падтрымка гэтых арганізацыяў — дзейсная і адчувальная.

***— А ўвогуле, спадар Мікола, ці пачуваеце сябе адзінокімі ў бядзе?***

— Не. Ад калегаў-журналістаў з усіх куткоў Беларусі, ад сваіх чытачоў дапамогу атрымліваем пастаянную. І маральную, і матэрыяльную. Адмоўчваецца хіба што трэці сектар — недзяржаўныя арганізацыі. Тыя, якія знаходзяцца на недзяржаўнай грашовай падпітцы. Чаму яны баяцца выказаць сваю пазіцыю на ўсё, што адбывалася і адбываецца на Беларусі?.. Абыякавасьць да ўсяго і ўсіх — вось што нас губіць. Між тым, у тую сітуацыю, у якой апынулася “Пагоня”, можа патрапіць любы.

*(Працяг на стар. 5)*



 

# Каштоўны досьвед

## Сябры ГА ПЦ "Вясна" наведалі семінар па абароне правоў чалавека ў Швецыі.

***З 30 лістапада па 7 сьнежня група моладзі, сяброў Грамадзкага аб'яднаньня "Праваабарончы цэнтр "Вясна" з Мінску, Барысаву і Магілёву, знаходзілася ў Стакгольме па запрашэньні даўняга партнёру "Вясны" - швецкага аб'яднаньня Svenska Freds (арганізацыі за мір і арбітраж). Паездка беларускіх праваабаронцаў адбывалася ў межах агульнага праекту "Моладзевая школа па правах чалавека", першая частка якога была рэалізаваная ў Беларусі ў сёлетнім красавіку. Мэтай другога этапу праграмы было азнаямленьне беларусаў з функцыянаваньнем дзяржаўных і недзяржаўных інстытутаў у рамках дэмакратычнай палітычнай сістэмы. Беларуская дэлегацыя складалася ў асноўным з супрацоўнікаў юрыдычнай службы "Вясны", таму асаблівая ўвага надавалася юрыдычным асьпектам працы праваабарончых арганізацыяў і іх супрацоўніцтву з дзяржаўнымі структурамі.***

Вялікую зацікаўленасьць з боку прадстаўнікоў маладога праваабарончага руху Рэспублікі Беларусь выклікала гісторыя і сучасная дзейнасьць самой Svenska Freds, пра якія расказаў яе старшыня Енс Пэтэрсэн. Зразумела, больш як стогадовы вопыт дзейнасьці арганізацыі, што была заснаваная яшчэ ў 1883 годзе, ня можа быць проста перанесены на беларускую глебу, як ня можа быць імгненна і цалкам перанятая швецкая мадэль сацыял-дэмакратычнага грамадзтва. Але гэты вопыт карысны ня толькі на перспэктыву – яго трэба ўлічваць у дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў Беларусі як прыклад эфектыўнай і мэтанакіраванай працы.

Svenska Freds, заснавальнікам якой быў лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру 1908 году, публіцыст і парламентарый Клас Понтус Арнальдсан, была створаная з канкрэтнай мэтай – падрыхтаваць швецкае грамадзтва да спакойнага і мірнага адлучэньня Нарвегіі ад Швецыі. У гэты час імкненьне да незалежнасьці ў Нарвегіі, якая з 1815 году была аб'яднаная са Швецкім каралеўствам, выклікала сярод некаторых шведаў жаданьне любымі сродкамі захаваць саюз, хай сабе і з дапамогай войска. Але ў 1905 годзе, калі нарвескі парламент прагаласаваў за незалежнасьць, аддзяленьне, якое само па сабе было непазьбежнае, прайшло негвалтоўным шляхам.

Менавіта дзейнасьць Svenska Freds як суб'екту міждзяржаўнага арбітражу забясьпечыла такі ход працэсу. Зараз гэтая арганізацыя таксама працуе ў сьферы міжнароднага арбітражу, удзельнічае ў руху за раззбраеньне, барацьбе супраць прымяненьня процiпяхотных мінаў і ажыцьцяўляе дапамогу працэсам дэмакратызацыі ва Усходняй Еўропе. Часткова гэтая праца фінансуецца з боку швецкага ўраду, што таксама зьяўляецца сьведчаньнем вялікага аўтарытэту арганізацыі.

У структуры Svenska Freds існуе асобная Усходняя група (каля дзесяці чалавек), якая займаецца кантактамі з няўрадавымі арганізацыямі краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Прадстаўнікі гэтай групы некалькі разоў наведвалі Беларусь па запрашэньні "Вясны".

Яшчэ адзін тамтэйшы партнёр "Вясны" – Швецкі хельсінскі камітэт. Удзельнікі семінару сустрэліся з ягоным генеральным сакратаром Робертам Хордам, які распавёў пра працу гэтай арганізацыі ў галіне абароны правоў чалавека на Балканах, у Беларусі і ў Швецыі, пра яе супрацоўніцтва з еўрапейскімі структурамі і швецкім урадам. Пазнаёміўшыся са становішчам у сьферы правоў чалавека ў Швецыі, удзельнікі семінару абмеркавалі і



Беларускія праваабаронцы на прыёме ў Svenska Freds.

актуальныя праблемы беларускага боку: былі закранутыя такія тэмы, як акцыя ў абарону Курапатаў, крымінальная справа прафесара Бандажэўскага, зьнікненьне вядомых людзей, цяжкасьці, з якімі сутыкаюцца беларускія праваабарончыя арганізацыі.

Беларуская дэлегацыя сустрэлася з прэс-сакратаром Швецкага няўрадавага фонду правоў чалавека Аннай Вігенмарк, якая расказала пра працу, якую гэтая арганізацыя ажыцьцяўляе з 1991 году ў Афрыцы і Лацінскай Амерыцы. У сваёй роднай краіне гэтая арганізацыя займаецца распаўсюджваньнем інфармацыі, фармаваньнем грамадзкай думкі і падрыхтоўкай гэтакзваных "паралельных справаздачаў" для міжнародных арганізацыяў пра стан правоў чалавека ў Швецыі (напрыклад, альтэрнатыўная справаздача на Міжнароднай канферэнцыі па барацьбе з расізмам).

Таксама адбыліся цікавыя гутаркі з журналістам і аналітыкам Торгны Хінэма, з Осай Бэрглунд – сакратаром цэнтру "Форум Сюд", які разьмяркоўвае сродкі, выдаткаваныя швецкай дзяржавай на праграмы разьвіцьця грамадзянскага супольніцтва ў іншых краінах – і сябрамі юрыдычнай групы аднаго з аддзяленьняў Міжнароднай Амністыі. Падчас гэтых размоваў адчувалася шчырая зацікаўленасьць людзей беларускімі падзеямі і магчымымі акцыямі, якія б здолелі зьмяніць сітуацыю з правамі чалавека ў РБ у лепшы бок.

Але акрамя азнаямленьня з працай арганізацыяў трэцяга сектару, вельмі важнай ды істотнай часткай візіту сталася наведваньне некаторых дзяржаўных установаў. Напрыклад, вельмі карысным быў візіт у сьледчую турму "Кронаберг" - самую вялікую, разьлічаную на 300 чалавек, установу такога кшталту ў краіне. Прынцыповае адрозьненьне "Кронабергу" ад беларускіх сьледчых ізалятараў у тым, што да людзей, якія тут утрымліваюцца, ставяцца як да невінаватых – бо яны яшчэ толькі чакаюць суда, які павінен высьвятліць, ці зьяўляюцца яны сапраўды злачынцамі. Адсюль – даволі прыстойныя ўмовы ўтрыманьня: камеры, у якіх "сядзяць" па адным чалавеку, больш падобныя да нумароў у сярэдняга ўзроўню гатэлі, добрае харчаваньне, тэлевізар, газеты, магчымасьць тэлефанаваць дадому і г. д. Карацей, зьняволеныя маюць нармальны ўзровень існаваньня, акрамя таго, што яны сапраўды ізаляваныя ад грамадзтва. Такім чынам, "Кронаберг" выконвае літаральна толькі пастанову суда аб папярэднім узяцьці пад варту на час сьледзтва. У нас жа, напрыклад, "Валадарка" з яе катавальніцкімі ўмовамі ўтрыманьня робіцца сродкам, з дапамогай якога сьледчы і пракуратура "выбіваюць" патрэбныя доказы з абвінавачаных. У гэтай сувязі парадаксальна гучаць прэтэнзіі з боку еўрапейскіх структураў да гэтай установы – кажуць, што тут быццам бы дрэнная сістэма вентыляцыі і кепска працуюць кандыцыянеры. Можа яно і сапраўды так, але гэта не параўнаеш з нечалавечымі беларускімі ўмовамі ўтрыманьня. Адзначым, што ў адрозьненьне ад беларускага заканадаўства, швецкі крымінальна-працэсуальны ко-

дэкс не дае абмежаваньня тэрміну ізаляцыі абвінавачаных да суда. Аднак на практыцы нават чалавека, які быў абвінавачаным па справе забойства прэм'ер-міністра Улафа Пальмэ, трымалі пад вартай трохі болей за два гады – у нас часьцяком сядзяць і болей, у невыносных умовах.

Таксама беларуская дэлегацыя была запрошаная ў Міністэрства замежных справаў Швецыі на сустрэчу з ягоным сакратарам Стэфанам Гульгрэнам, які займаецца кантактамі з еўрапейскімі краінамі СНД. Ён праінфармаваў беларусаў пра афіцыйную пазіцыю гэтага ведамства па беларускім пытаньні, якая аказалася цалкам салідарнай з агульнай пазіцыяй Еўразьвязу. Еўрапейскія краіны і надалей будуць абмяжоўваць кантакты з вышэйшым кіраўніцтвам РБ, але будуць актыўна спрыяць супрацоўніцтву з Беларусьсю на ўзроўні "трэцяга сектару". Гэта значыць, напрыклад, што прэзідэнт РБ, пры сёньняшніх умовах, ня можа мець афіцыйную сустрэчу з кіраўнікамі краін Еўразьвязу – сустракацца з ім будуць толькі на ўзроўні не вышэй за міністра. Адпаведна, міністр замежных справаў РБ ня можа быць прыняты кіраўніком МЗС, напрыклад, ФРГ – да той пары, пакуль сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі не палепшыцца, яго будуць прымаць толькі на ўзроўні намесьнікаў міністра і кіраўнікоў дэпартаментаў. Такім чынам, пакуль што пазіцыя еўрапейскіх структураў адносна існуючага ў Беларусі рэжыму застаецца нязьменнай.

Яшчэ дэлегацыя мела экскурсію ў швецкі парламент – Рыксдаг, дзе азнаёмілася з парламенцкімі працэдурамі і заканатворчым працэсам гэтага прадстаўнічага органу, які быў створаны 500 гадоў таму.

Вельмі карыснай і зьмястоўнай атрымалася сустрэча з судзьдзямі гарадзкога суда г. Стакгольму. Працяглая дыскусія, прысьвечаная параўнаньню пытаньняў канстытуцыйнага будаўніцтва ў краінах разьвітой дэмакратыі і ў краінах з пераходным грамадзтвам, выявіла прынцыповае адзінства поглядаў юрыстаў з абодвух бакоў.

На жаль, не была рэалізаваная трэцяя частка курсу школы, падчас якой планавалася праслухаць лекцыю міністра замежных справаў РБ сп. Хвастова. Кіраўнік беларускага зьнешнепалітычнага ведамства адмовіўся ад візіту ў Швецыю, спаслаўшыся на нейкія надзвычайныя справы ў Беларусі.

Аднак і ў такім фармаце праграма семінару дазволіла ўзьняць узровень прафесіяналізму сяброў "Вясны" на новую прыступку. Адукацыйная мэта была пасьпяхова дасягнутая – быў павышаны ўзровень прафесійнай падрыхтоўкі людзей, якія будуць сьвядома і адказна пашыраць грамадзкі рух у абарону правоў чалавека, спрыяць ажыцьцяўленьню прынцыпаў прававой дзяржавы і дэмакратыі ў Беларусі. Была выкананая і камунікацыйная задача курсу – наладжаны важныя кантакты са швецкімі арганізацыямі.

Такім чынам, сябры Грамадзкага аб'яднаньня "Праваабарончы цэнтр "Вясна" атрымалі каштоўны досьвед, які яны абавязкова выкарыстаюць у сваёй дзейнасьці.

**Юры ЧАВУСАЎ.**



# "Пагоні" неабходная падтрымка!"

*(Пачатак на стар.3)*

Калі не навучымся трымацца талакой, падтрымліваць адзін аднога, нас, разьяднаных, паступова зьнішчаць!

***— Урэшце, і ў кампутарным варыянце "Пагоня" не застрахаваная ад лукашэнкаўскага цкаваньня?***

— Безумоўна! На Беларусі магчыма ўсё. Нездарма зараз паскоранымі тэмпамі распрацоўваюцца новыя папраўкі да закону аб друку. Не выключаная магчымасьць, што нашыя ўлады, пераняўшы "прагрэсіўны" кітайскі вопыт, увядуць рэгістрацыю сайтаў. Зьявіцца чарговая фармальная прычына зьнішчыць нас у чарговы раз. Вы ж памятаеце, як адключаліся сайты апазіцыйных выданьняў падчас прэзідэнцкіх выбараў! Лукашэнка дзеля захаваньня сваёй улады пойдзе на любыя меры. Нічога апрача гэтага яго проста не цікавіць. Паўтараю, калі мы прамаўчым, стрываем — усіх нас зьнішчаць!

Выкарыстоўваючы магчымасьці гэтага інтэрв'ю, хачу зьвярнуцца ў чарговы раз да насельнікаў Беларусі, да грамадзкасьці Еўропы: давайце дапаможам адзін аднаму, ня будзем абыякавымі ў змаганьні за волю, за свае правы. Суайчыньнікі, выкажыце сваю пазіцыю! Нават ня дзеля падтрымкі "Пагоні". Дзеля захаваньня праўды і волі! Калі гэтага не адбудзецца — наступнымі будзеце вы!

"Пагоня" 10 сьнежня падала скаргу ў Вышэйшы Гаспадарчы суд Беларусі ў парадку нагляду, дзе патрабуе адмены незаконнага прысуду аб закрыцьці газеты. Падтрымайце нас лістамі. Накіроўвайце іх у дзяржаўныя інстанцыі. Калі мы сіла — нас баяцца, калі мы паасобку — нас зьнішчаюць! Вось адрасы дзеля ліставаньняў:

**Генеральная пракуратура Беларусі:**
*220050, Мінск, ГСП, вул. Інтэрнацыянальная, 22. Генеральны пракурор Шэйман Віктар Уладзіміравіч.*

**Вышэйшы Гаспадарчы суд Беларусі:**
*220050, Мінск, вул. Валадарскага, 8. Старшыня ВГС Камянкоў Віктар Сяргеевіч.*

**Адміністрацыя прэзідэнта РБ:**
*220010, Мінск, вул. Карла Маркса, 36. Прэзідэнт Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч.*

"Пагоня" з вамі, беларусы, "Пагоня" за вас. Будзьма ж разам!

**Гутарыў Алесь ГАРКУН.**

***P.S.*** 13 сьнежня штрафам у памеры 50 мінімальных заробкаў быў пакараны галоўны рэдактар "Пагоні" Мікола Маркевіч. Такое рашэньне вынес судзьдзя па адміністрацыйных справах Ленінскага раённага суда гораду Гародня Дзьмітрый Дземчанка. Галоўнага рэдактара газеты абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным пікеце, які адбыўся ў знак пратэсту супраць закрыцьця "Пагоні" 19-га лістапада.

Мікола Маркевіч сваёй віны не прызнаў. Каментуючы пастанову судзьдзі, ён падкрэсьліў, што Канстытуцыя краіны гарантуе чалавеку права пратэставаць супраць незаконных дзеяньняў уладаў. Паводле словаў журналіста: "Тое, што ўлада панаставала антыканстытуцыйныя законы і на гэтай падставе судзіць сваіх палітычных апанентаў – сьведчыць пра амаральнасьць гэтай улады."

Нагадаем, што 26 лістапада судзьдзя Дзьмітрыя Дземчанкі за ўдзел у тым самым пікеце пакараў папярэджаньнем яшчэ двух журналістаў "Пагоні" Анджэя Пісальніка і Паўла Мажэйку.

***P.P.S.*** *На 8-й старонцы гэтага нумару "Права на волю" прапануе некалькі матэрыялаў газеты "Пагоня", якія зьмешчаныя цяпер у Інтэрнэце і шырокаму беларускаму чытачу амаль недаступныя. Гэтым самым мы бліжэй знаёмім вас з закрытым уладамі выданьнем і выказваем падтрымку яго журналістам, якія працягваюць змаганьне за права на свабоду слова, за права займацца любімай справай, за права карыстацца роднай мовай...*




*10 сьнежня Грамадзкая арганізацыя "Прававая дапамога насельніцтву" на вуліцах Мінску правяла акцыю з нагоды Міжнароднага дня правоў чалавека.*

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар.1)

***5 сьнежня*** Міністэрства юстыцыі Беларусі ў сваім лісьце пацьвердзіла, што Аляксандр Лукашэнка адкрыта парушае Канстытуцыю краіны. "Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 12-га студзеня 1998 году № 19 у афіцыйных крыніцах прававой інфармацыі не друкаваўся, паколькі зьяўляецца нарматыўным актам, мае грыф абмежаванасьці ў доступе", – піша намесьнік міністра В. Міцкевіч. Між тым у артыкуле 7 Канстытуцыі Беларусі сказана: "Нарматыўныя акты дзяржаўных органаў друкуюцца і даводзяцца да ўсеагульнага азнаямленьня іншым прадугледжаным законам спосабам". Як сьцьвярджае агенцтва "Ю.С. Ньюс", менавіта ў сакрэтным указе А. Лукашэнкі ад 12 студзеня 1998 году № 19, па зьвестках крыніцаў з прэзідэнцкай адміністрацыі, можа ўтрымлівацца ўказ стварыць сьпецыяльную брыгаду, якую называюць "эскадронам сьмерці".

***6 сьнежня*** ўзбуджаная крымінальная справа па факце вандалізму на месцах масавых пахаваньняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў у Курапатах: разбурэньня ўстаноўленай падчас візіту ў Беларусь прэзідэнта ЗША Біла Клінтана мемарыяльнай лаўкі. Сьледчыя Мінскага раёну прыехалі ў штаб-кватэру БНФ і дапыталі па гэтай справе ў якасьці сьведкаў некалькі членаў БНФ і лідэра Маладога Фронту Паўла Севярынца. Міліцыю цікавіла думка абаронцаў Курапатаў адносна варварскай акцыі. Адзначым, што сьледчыя дзеяньні пачаліся амаль праз 3 месяцы пасьля разбурэньня памятнага знаку. Павел Севярынец расцаніў гэтыя дзеньні як вынік палітычнай кан'юнктуры, жаданьне адначасова зрабіць рэверанс у бок Амерыкі ў новым геапалітычным становішчы і згладзіць грамадзкі шок, выкліканы разбурэньнем Курапатаў.

***9 сьнежня*** ў гарадах Беларусі адбыліся акцыі, прымеркаваныя да гадавіны прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Акцыі праходзілі ў межах кампаніі "Хочам ведаць праўду". У Гародні і Берасьці былі затрыманыя актыўныя ўдзельнікі мерапрыемстваў. ***У Гародні*** ў мерапрыемстве, якое доўжылася каля 40 хвілінаў, узялі ўдзел каля 30 чалавек. Супрацоўнікі міліцыі тройчы прапаноўвалі ім разысьціся, а потым затрымалі прадстаўніка АГП ***Зьміцера Карпенку*** і прадстаўніка "Маладой Грамады" ***Сьвятлану Нех***. Праз паўгадзіны затрыманыя былі адпушчаныя, пратаколы не складаліся. ***У Берасьці*** ўдзел у пікеце ўзялі каля 30 чалавек. Праз 40 хвілінаў намесьнік начальніка Ленінскага РАУС Крэгель даў каманду арыштоўваць. Людзі супраціўляліся, сядалі на зямлю. 12 чалавек былі дастаўленыя ў пастарунак: ***Э. Карпюк, М.Клімовіч, М.Мікалюк, С.Казлоў, М.Казімірчык, В.Барбулін, В.Малей, В.Вялічкін, Р.Антанюк, П.Панасюк, Г.Самойленка, Алексіевіч***. На ўсіх былі складзеныя пратаколы па арт. 167 ч.1, тры чалавекі атрымалі яшчэ і арт. 166 (непадпарадкаваньне супрацоўнікам міліцыі). Усе былі адпушчаныя ў 18.30. ***У Гомелі***, каля ўніверсаму "Гомель з 15 да 16 гадзінаў сябры Гомельскага аддзяленьня ГА ПЦ "Вясна", партыі БНФ, моладзевых арганізацыяў "Гарт" і "Зубр" правялі акцыю "Ланцуг неабыякавых людзей", У мерапрыемстве ўзялі ўдзел каля 50 чалавек. Уся акцыя праходзіла пад наглядам супрацоўнікаў міліцыі Цэнтральнага РУУС г. Гомелю. Затрыманьняў не было, хоць акцыю і не санкцыянавалі гарадзкія ўлады.



***9 сьнежня*** *ў Мінску ў межах кампаніі "Хочам ведаць праўду" прайшла акцыя "Ланцуг неабыякавых людзей", у якой узялі ўдзел вядомыя палітыкі, прадстаўнікі палітычных партыяў і моладзевых арганізацыяў.*



***10 сьнежня*** ў Барысаве Праваабарончым цэнтрам "Вясна" была арганізаваная акцыя з нагоды 53-ай гадавіны абвяшчэньня Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека. Каля 10 сяброў ГА ПЦ "Вясна", БНФ, "Зубра" выйшлі на вуліцы гораду, дзе наладзілі раздачу насельніцтву тэкстаў Дэкларацыі правоў чалавека, бюлетэню "Права на волю". Гэтым разам абышлося без затрыманьняў".

***10 сьнежня*** ў Наваполацку прадстаўнікі ПЦ "Вясна" правялі некалькі акцыяў па адзначэньні ўгодкаў прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. На двух каналах мясцовага тэлебачаньня бягучым радком было разьмешчанае віншаваньне жыхароў Наваполацку, Полацку і прылеглых рэгіёнаў з гадавінай прыняцьця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. У цэнтры Наваполацку, на плошчы Будаўнікоў некалькі актывістаў Праваабарончага цэнтру "Вясна" і Маладога Фронту прапаноўвалі мінакам адказаць на пытаньні анкеты, прысьвечанай Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і віншавалі з угодкамі яе прыняцьця. Вынікі анкетаваньня такія: усе апытаныя збольшага ведалі, што ўяўляе з сябе Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, але толькі 7% памяталі год яе прыняцьця. 17,8 % лічаць прыняцьце Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека значным для сябе, 25% лічаць, што гэта мае для іх невялікае значэньне і 39,28% – ніякага значэньня. На пытаньне "Як вы лічыце, ці забясьпечваюцца Вашыя правы?" большая частка (57,14%) адказала – "не", "забясьпечваюцца толькі частка" – 10,7%, "так, забясьпечваюцца" – 25%. На пытаньне "Як Вы лічыце, хто павінен абараняць Вашыя правы?" 46% адказала –"дзяржава", 10,7% – "суд", 10,7% – "прэзідэнт" і толькі 3% – "мясцовыя ўлады". 15% лічаць, што абараняць свае правы яны мусяць самі.

***13 сьнежня*** Грамадзянская калегія Мінскага абласнога суда разгледзела скаргу настаўніка ***Андрэя Аляхновіча*** на рашэньне Крупскага раённага суда. Нагадаем, што сацыяльны педагог сярэдняй школы нумар адзін г.Крупкі Андрэй Аляхновіч быў звольнены з працы за тое, што далучыў да ўдзелу ў перадвыбарачай агітацыйнай кампаніі двух вучняў. Андрэя Аляхновіча звольнілі з працы па арт 47. ч.3 за "ўчынак несумяшчальны з пасадай настаўніка". Андрэй Аляхновіч падаў грамадзянскі зыск да Крупскага аддзелу Народнай адукацыі аб аднаўленьні на працы. Судзьдзя Крупскага раённага суда Васіль Панкратаў не задаволіў зыск А.Аляхновіча. Грамадзянская калегія Мінскага абласнога суда ў сваю чаргу вынесла "вызначэньне" – пакінуць рашэньне Крупскага раённага суда бяз зьменаў, а касацыйную скаргу без задавальненьня. Андрэй Аляхновіч плануе абскарджваць гэтае рашэньне ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь.

***13 сьнежня*** суд Першамайскага раёну г.Мінску разгледзеў зыск лідэра Аб'яднанай грамадзянскай партыі ***Анатоля Лябедзькі*** да Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і аўтара палітычнага серыялу "Тайныя спружыны палітыкі" Юрыя Азаронка. У адным з фільмаў Ю. Азаронак заявіў, што Анатоль Лябедзька са сваімі калегамі па партыі быццам бы ўвезьлі праз польска-беларускую мяжу пэўную суму грошай, і пасьля гэтага дабрабыт Ля-

бедзькі павялічыўся на 8 з паловаю тысячаў даляраў. "Азаронак не прадставіў у суд ніводнага дакументу, які б мог пацьвердзіць гэта – адны агульныя меркаваньні: што ён не хацеў мяне пакрыўдзіць і ня лічыць мяне пакрыўджаным, — кажа Анатоль Лябедзька. – На пытаньне, чым выкліканая ўвага менавіта да маёй персоны, ён патлумачыў, што я адзіны з лідэраў беларускай апазіцыі наладжваю нацыянал-палітычныя мерапрыемствы. Такім чынам, ён сам пацьвердзіў, што існаваў палітычны заказ на пэўных асоб беларускай палітыкі, каб стварыць негатыўнае поле вакол гэтых людзей". Суд вынес рашэньне: Нацыянальная тэлерадыёкампанія абавязаная публічна папрасіць прабачэньня ў Анатоля Лябедзькі і выплаціць штраф у памеры 600 тысячаў беларускіх рублёў, а Юры Азаронак павінен выплаціць 400 тысячаў рублёў штрафу.

***13 сьнежня*** у судзе Чыгуначнага раёну г.Гомелю працягвалася слуханьне адміністратыўнай справы аб парушэньні актывістам руху "Зубр" і старшынёй гарадзкога моладзевага цэнтру "Гарт" ***Сяргеем Адзінцом*** Дэкрэту прэзідэнта РБ №8 "Аб некаторых мерах па ўдасканаленьні парадку атрыманьня і выкарыстаньня замежнай бязвыплатнай дапамогі". Рэч у тым, што 10 жніўня ў парадку крымінальнае справы аб графіці ў арганізацыі была канфіскаваная ўпраўленьнем КДБ па Гомельскай вобласьці аргтэхніка коштам прыкладна ў 4 тысячы даляраў ЗША. Крымінальная справа з часам была спыненая, але тэхніку "Гарту" так і не вярнулі. Падатковая інсьпекцыя па Чыгуначным раёне, зыходзячы з дадзеных КДБ, сьцьвярджае, што тэхніка выкарыстоўвалася не па прызначэньні, а для правядзеньня незалежнага назіраньня за ходам прэзідэнцкіх выбараў, чым і быў парушаны згаданы дэкрэт. У такім выпадку аргтэхніка будзе падлягаць канфіскацыі. Доказы юрыста Леаніда Судаленкі, які прадстаўляў у судзе інтарэсы Сяргея Адзінца, не былі прынятыя пад увагу, і судзьдзя Ганна Новік хадайніцтва аб устанаўленьні правапарушэньня адхіліла. На наступнае судовае паседжаньне, якое прызначанае на 20 сьнежня, судзьдзя пастанавіла запытаць матэрыялы спыненай адносна "Гарту" крымінальнай справы.

**Інфармацыйны аддзел ГА ПЦ "Вясна".**

# У памілаваньні – адмоўлена

***Аляксандр Лукашэнка адмовіўся памілаваць прафесара Юрыя Бандажэўскага, які месяц таму зьвярнуўся да яго з адпаведнаю просьбай. Адмову Юры Бандажэўскі атрымаў у мінскай калоніі, дзе ён правёў больш за 5 месяцаў паводле прысуду за хабарніцтва. Сваякі Бандажэўскага сьцьвярджаюць, што ў адказе з канцылярыі адміністрацыі Аляксандра Лукашэнкі «лаканічна паведамляецца пра тое, што просьба аб памілаваньні не задаволеная, а тлумачэньняў ніякіх няма».***

У каметары Радыё Свабода адвакат Сяргей Цурко нагадаў, што Бандажэўскі не прызнаў сябе вінаватым у судзе і не павініўся ў просьбе аб памілаваньні. Цурко не выключае, што гэтая ўпартасьць ягонага падабароннага паўплывала на рашэньне кіраўніка дзяржавы.

"Калі ў жніўні паслы краінаў Еўразьвязу хадзілі ў наша Міністэрства замежных справаў прасіць за Бандажэўскага, ім адказалі: «Пра што гаворка? Няма ж звароту Бандажэўскага аб памілаваньні. Вось калі такі зварот будзе, тады і разгледзім». А цяпер – такое рашэньне... Ня ведаю, чаму. Хутчэй за ўсё, гэта звычайныя гульні ўладаў», – мяркуе Сяргей Цурко.

Амаль адначасова з адмовай у памілаваньні Юры Бандажэўскі атрымаў і адказ з Вярхоўнага суда РБ на скаргу на прысуд. І тут таксама адмова. Вярхоўны суд не пажадаў пераглядаць справу Бандажэўскага і пакінуў вынесены яму прысуд бяз зьменаў.

Між тым адвакаты Юрыя Бандажэўскага настойваюць, што прафесар не вінаваты. Яны заяўляюць, што працэс над ім і па сутнасьці, і фармальна быў праведзены з шэрагам парушэньняў – таму справа патрабуе перагляду.

Нагадаем, што прафесар, былы рэктар Гомельскага медыцынскага інстытуту Юры Бандажэўскі быў асуджаны да васьмі гадоў турмы – нібыта за хабарніцтва. Аднак праваабаронцы і апазіцыя ў беларусі лічаць яго чарговай ахвяраю палітычнага рэжыму. Нагадаем, што Бандажэўскі вёў актыўную барацьбу з афіцыйнай палітыкай у чарнобыльскай галіне, у прыватнасьці, сваімі дасьледаваньнямі даказаў сьмяротную шкоду дозаў радыяцыі, што атрымліваюць жыхары раёнаў, якія афіцыйна прызнаюцца прыдатнымі да жыцьця.

Цяпер, паводле словаў абаронцы Дзьмітрыя Іванішкі, скаргу на прысуд Бандажэўскаму павінны разглядзець у Камісіі па правах чалавека ААН у Жэневе. Адвакат сьцьвярджае, што скарга туды дасланая. У выпадку станоўчага рашэньня Камісіі ААН зьявіцца фармальная падстава зноў патрабаваць ад Вярхоўнага суда Беларусі перагляду справы Ю. Бандажэўскага.

***

Асуджаны разам з Юрыем Бандажэўскім былы пракрэтар медінстытуту Уладзімір Раўкоў адбывае пакараньне ў калоніі ўзмоцненага рэжыму ў Шклове. Як кваліфікаваны сьпецыяліст, урач У. Раўкоў у калоніі дапамагае мясцоваму доктару, мае пасаду "санітар". Па словах адваката Дзьмітрыя Іванішкі, Уладзімір Раўкоў дапамагае ў лячэньні хворых зьняволеных: "Гэта ж калонія, там вельмі шмат розных людзей...У тым ліку і хворых на сухоты, і на СНІД. Там вельмі часта здараюцца і пераломы, і парэзы, і раны, і хваробы ўсе практычна... Так што працы хапае. Вядома, калонія – ёсьць калонія. На волі, безумоўна, лепш. Але Уладзімір Раўкоў перадае ўсім прывітаньне і спадзяецца на справядлівасьць".

У сьнежні гэтага году адвакат Дзьмітры Іванішка і ад імя Уладзіміра Раўкова таксама накіраваў скаргу ў Камісію па правах чалавека ў ААН.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ "Вясна" паводле Радыё Свабода.**

# Сьмяротнае пакараньне можа быць адмененае

Беларусь па-ранейшаму застаецца краінай, дзе да злачынцаў прымяняюцца такія прысуды як сьмяротнае пакараньне. 10 сьнежня намесьнік Генеральнага пракурора Беларусі Аляксандр Іваноўскі паведаміў, што летась сьмяротны прысуд быў вынесены чатыром асобам. Сёлета такі вырак атрымалі таксама чацьвёра асуджаных. Апрача таго, яшчэ 18 чалавек былі асуджаныя ў гэтым годзе на пажыцьцёвае зьняволеньне.

Між тым стала вядома, што ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі рыхтуюцца парламенцкія слуханьні па праблемах адмены сьмяротнага пакараньня. Пра гэта агенцтву БелаПАН паведаміў член пастаяннай парламенцкай камісіі па правах чалавека, нацыянальных стасунках і СМІ Іван Пашкевіч.

Паводле інфармацыі БелаПАНу, ідэя аб правядзеньні такіх слуханьняў ужо абмяркоўвалася на паседжаньні Савету Палаты прадстаўнікоў і атрымала падтрымку кіраўніцтва ніжняй палаты. Апрача таго, гэтую ідэю падтрымлівае кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Урал Латыпаў, аднак дадзенае пытаньне пакуль ня ўзгодненае з прэзідэнтам. Калі рашэньне аб правядзеньні слуханьняў будзе прынятае, то яны могуць адбыцца ўжо на веснавой сесіі. На слуханьні плануецца запрасіць прадстаўнікоў парламенцкіх асамблеяў Савету Еўропы і АБСЕ.

Адмена сьмяротнага пакараньня – адна з умоваў аднаўленьня для Беларусі статусу сьпецыяльнага запрошанага ў ПАСЕ. Яшчэ адна ўмова – заснаваньне ў Беларусі пасады ўпаўнаважанага па правах чалавека (омбудсьмена). Як паведаміў БелаПАНу старшыня камісіі па правах чалавека Валерый Ліпкін, плануецца, што адпаведны законапраект будзе разгледжаны Палатай прадстаўнікоў таксама на веснавой сесіі. Паводле яго словаў, цяпер гэты дакумент практычна цалкам гатовы да разгляду. Спрэчным застаецца толькі адно яго палажэньне – каго надзяліць правам прызначаць омбудсьмена. Зараз разглядаюцца два варыянты: упаўнаважаны па правах чалавека будзе прызначацца прэзідэнтам і зацьвярджацца парламентам або выбірацца парламентам па ўзгадненьні з кіраўніком дзяржавы.

## По старонках газеты ПАГОНЯ

# Палякам з Ваўкавыску забараняюць выязджаць у Польшчу

Аддзел адукацыі Ваўкавыскага раёну (Гарадзенская вобласьць) выдаў пастанову, паводле якой вучням, настаўнікам і супрацоўнікам польскай школы № 8 у Ваўкавыску забараняецца выезд у Польшчу без узгадненьня з мясцовымі ўладамі.

У лісьце за подпісам кіраўніка аддзелу адукацыі Міхаіла Матвейчыка, скіраваным да дырэктара школы Рычарда Худзяка, гаворыцца: «Аддзел адукацыі Ваўкавыскага райвыканкаму інфармуе Вас, што ўсялякія кантакты з Рэспублікай Польшча, мэтай якіх зьяўляецца абмен вопытам, павінныя быць узгодненыя з абласным і раённым аддзеламі адукацыі, а таксама з раённым выканаўчым камітэтам. З 1 сьнежня 2001 году забараняюцца ўсялякія выезды настаўнікаў, вучняў, адміністрацыйнага персаналу без адпаведнага дазволу».

Цяпер прадстаўнікам Саюзу палякаў давядзецца інфармаваць мясцовыя ўлады пра запланаваны выезд за месяц да паездкі і чакаць адміністрацыйнага дазволу. Веслаў Кедляк, віцэ-прэзідэнт Саюзу палякаў у Беларусі, расцэньвае гэтыя падзеі як чарговы ціск на дзейнасьць арганізацыі і спробу парушыць правы польскай меншасьці. Па словах сп. Кедляка, гэта ня першы выпадак, калі ўлады перашкаджаюць дзейнасьці Саюзу. У тым жа Ваўкавыску старшыня райвыканкаму забараняў правядзеньне ў Доме польскім канферэнцыі па новых мэтадах навучаньня, матывуючы гэта тым, што права на правядзеньне падобных мерапрыемстваў маюць толькі афіцыйныя ўлады, а ў мястэчку Воранава беларускім палякам не дазваляюць стварыць польскія класы ў мясцовай школе. Пра падзеі ў Ваўкавыску ўжо ведаюць у амбасадзе Польшчы ў Беларусі, а кіраўнік Саюзу палякаў Тадэвуш Крукоўскі, што знаходзіцца зараз у Варшаве, давёў гэтую інфармацыю да польскага грамадзтва.

**BARCNEWS.**

# Памаліцца ў Беларусі каштуе як мінімум 1000 даляраў

Сто пяцьдзесят мінімальных заробкаў, што складае паўтара мільёна рублёў – такім аказаўся кошт малітвы для гарадзенскага мастака Дзьмітрыя Іваноўскага. Яго асудзілі за арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу, які па меркаваньні міліцыі і суда адбыўся 29 лістапада ў Гародні.

Нагадаем, што ў гэты дзень каля 200 гарадзенцаў прыйшлі на месца ўзарванай сорак гадоў таму гарадзенскай фары Вітаўта. Яны мелі правесьці тут мітынг-рэквіем "Без гісторыі няма будучыні" ў памяць аб разбураным храме. Аднак улады Гародні адмовілі ініцыятарам мітынгу, пры гэтым спасылаліся на недапушчальнасьць правядзеньня мерапрыемства па заяўленай тэматыцы. Рашэньне ўладаў арганізатары атрымалі толькі за дзень да прызначанага мерапрыемства і не пасьпелі павядаміць пра забарону жыхарам і гасьцям гораду.


Дзьмітры ІВАНОЎСКІ.

З мэтай папярэдзіць магчымыя рэпрэсіі, Дзьмітры Іваноўскі выступіў перад удзельнікамі мерапрыемства і падкрэсьліў, што "мітынгу ня будзе". Каб стрымаць агрэсію грамадзянаў супраць прысутных міліцыянтаў, Іваноўскі падрабязна распавёў пра прычыны і матывы адмовы, пасьля чаго прапанаваў удзельнікам "памаліцца за беларускія сьвятыні".

Менавіта ў гэтым "закліку" судзьдзя Ярашэвіч угледзеў прыкметы мітынгу. Супрацоўнік міліцыі, які сьведчыў супраць Іваноўскага ў судзе, капітан Немер убачыў крамолу ў самой малітве: "Яны пасьля гэтага дзесяць хвілінаў моўчкі штосьці абмяркоўвалі і толькі потым пачалі маліцца". Тое, што капітан Немер назваў малітвай, на самой справе было песьняй "Магутны Божа", якую людзі выканалі пасьля дзесяціхвілiннай малітвы.

Такім чынам, у Беларусі ўзьнік прэцэдэнт адміністратыўнага перасьледу за заклік "Давайце памолімся!" і непасрэдна за "арганізацыю" малітвы.

Дзьмітры Іваноўскі зьяўляецца беспрацоўным, на ўтрыманьні якога дзьве дачкі – адна з іх непаўнагадовая. Даход усёй сям'і складае каля 150 тысячаў рублёў у месяц, што зарабляе жонка мастака, якая працуе ў дзіцячым садку.

**ПАТ.**

# У Смаргоні баяцца незалежных газетаў

Гарадзенскі абласны гаспадарчы суд адмовіў у зыску да Смаргонскага райвыканкаму заснавальніку «Новай газеты Смаргоні» Рамуальду Улану. Райвыканкам ня даў яму дазволу на разьмяшчэньне ў горадзе яшчэ дзьвюх газетаў.

Падставай дзеля адмовы суда паслужыла тое, што рашэньне аб адмове прымалася асабіста старшынёй райвыканкаму Станіславам Юргелем, а не на пасяджэньні райвыканкаму, як гэта павінна быць згодна з заканадаўствам.

Смаргонскія ўлады з ліпеня 2001 году не даюць сп. Улану дазволу на разьмяшчэньне ў Смаргоні двух новых перыядычных выданьняў – «Новай газеты Астраўца» і «Новай газеты Ашмянаў». На імя сп. Улана зарэгістраваная «Новая газета Смаргоні», наклад якой сёньня тройчы перавышае наклад афіцыйнай раённай газеты. Меркавалася, што часова новыя выданьні будуць рабіцца на базе «Новай газеты Смаргоні» з удзелам ашмянскіх ды астравецкіх журналістаў.

Аднак у прыватных гутарках са сп. Уланам мясцовыя чыноўнікі зазначылі, што і з існуючай газетай яны маюць шмат клопату. А таму мець яшчэ адзін галаўны боль з новымі яны ня хочуць. Толькі пасьля неаднаразовых зваротаў выдаўцу была ўручаная афіцыйная папера за подпісам старшыні Смаргонскага райвыканкаму Станіслава Юргеля, дзе разьмяшчэньне ў горадзе новых выданьняў кваліфікуецца як немэтазгоднае.

Сп. Улану рэкамендавана зьвярнуцца ў тыя райвыканкамы, на тэрыторыі якіх мяркуецца распаўсюджваць выданьні. Аднак кіраўніцтва Ашмяншчыны ды Астравеччыны таксама адмовіла сп. Улану. Аргументацыя – тая самая: немэтазгодна. Маўляў, мясцовае насельніцтва атрымлівае дастаткова інфармацыі з афіцыйных газетаў.

Скарга сп. Улана ў аблвыканкам не дала станоўчага выніку. Урэшце выдавец зьвярнуўся са скаргай на Смаргонскі райвыканкам у абласны гаспадарчы суд. У судзе высьветлілася, што адмовіць выдаўцу можна было толькі на падставе рашэньня райвыканкаму. Усьцешыла сп. Улана толькі тое, што судовыя выдаткі яму будуць кампенсаваныя Смаргонскім райвыканкамам, рашэньня якога яму цяпер давядзецца чакаць.

**Міхась КАРНЕВІЧ.**

Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ. Пры передруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:viasna@spring96.org www.spring96.org

У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"